# Голас Радзімы

№ 41 (2131)
12 кастрычніка 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Анатоль БУХАРКІН усё сваё жыццё прысвяціў ахове прыроды. Шмат гадоў ён працаваў лесніком Палікскага лясніцтва Бярэзінскага біясфернага запаведніка. А зараз — на заслужаным адпачынку. Пяшчотную любоў да роднага краю, да мілых яго сэрцу лясоў і бароў гэты чалавек сумеў увасобіць у пейзажах і малюнках. Работы самадзейнага мастака вабяць шчырасцю і непасрэднасцю пачуццяў.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

РОДНАЯ МОВА

## БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА

У Маскве адкрылася першая нядзельная беларуская школа, арганізаваная таварыствам імя Францыска Скарыны.

Падобныя таварыствы створаны ў Ленінградзе, Эстоніі, Латвіі, Літве. На нядаўняй сустрэчы ў Беларускім фондзе культуры кіраўнікі таварыстваў падсумавалі вынікі сваёй работы, дзяліліся вопытам. Адзначалася, што дзейнасць беларускіх аб'яднанняў знаходзіць падтрымку ў мясцовых органаў улады, у друку саюзных рэспублік, на радыё і тэлебачанні. Напрыклад, у Літве двойчы ў тыдзень выходзіць радыёперадача на беларускай мове, праводзяцца святы на радзіме Францішка Багушэвіча, у месцах, звязаных з жыццём Якуба Коласа. У Маскве да 500-годдзя Францыска Скарыны будзе арганізавана юбілейная выстаўка, рыхтуюцца да выдання календары, плакаты.

80 тысяч беларусаў жывуць у горадзе на Няве. Вялікую дапамогу ленінградцам беларускай нацыянальнасці аказвае Музей этнаграфіі народаў СССР.

У канцы сустрэчы супрацоўнікі Беларускага фонду культуры падарылі гасцям нядаўна выпушчаны «Буквар» Анатоля Клышкі, пласцінкі з запісамі беларускіх народных песень.

ДЗЕЛАВОЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

## ФІРМА ШУКАЕ ПАРТНЁРАЎ

У Мінску адкрывае сваё прадстаўніцтва «Кавінатэхна» — фірма са славенскага горада Цыле. Пачынаючы работу ў сталіцы рэспублікі-пабрацімa, яна разлічвае на ўзаемавыгадны тавараабмен. Са свайго боку югаслаўскае аб'яднанне можа аказаць партнёрам шырокі дыяпазон паслуг. «Кавінатэхна» — адна з вядучых гандлёвых арганізацый у СФРЮ. У каталогу, які яна прапаноўвае для супрацоўніцтва, — звыш 80 тысяч вырабаў чорнай і каляровай металургіі, тэхнічныя вырабы і тавары народнага спажывання, будматэрыялы, прадукты хімічнай прамысловасці. «Кавінатэхна» выконвае работы ў чатырох напрамках: аптовым, рознічнага і замежнага гандлю, інжынірынга.

Першае знаёмства з беларускімі прадстаўнікамі вытворчасці адбылося два гады назад. За гэты час пабудаваны аўтаматызаваны склад камплектуючых дэталей для Мінскага трактарнага завода, наладжаны дзелавыя сувязі з вытворчым аб'яднаннем «Крыніца» — тут па ліцэнзіі «Кавінатэхны» на пастаўленым з Югаславіі абсталяванні асвоены выпуск сухога хуткарастваральнага напітку «Цэвіта». Атрыманы значны эканамічны эфект ад бартэрных здзелак, заключаных са знешнегандлёвым аб'яднаннем «Беларусзамежгандаль». Гэтае прадстаўніцтва ставіць сваёй мэтай выхад на кантакты з прадпрыемствамі з беларуска «глыбінкі». Але пры гэтым не застануцца «з бортам» і буйныя прадпрыемствы рэспублікі.

ДЭЛЕГАЦЫІ

## ДА МІРНЫХ ДАРОГ КОСМАСУ

У адпаведнасці з савецка-амерыканскай праграмай «Грамадзянскі пасол» у Мінску знаходзілася дэлегацыя аэракасмічнай прамысловасці ЗША. Дырэктары і вядучыя спецыялісты буйнейшых амерыканскіх фірм, якія выпускаюць авіяцыйную і касмічную тэхніку і распрацоўваюць для яе тэхналогіі і абсталяванне, пабывалі ў Саюзе кааператываў БССР, Беларускім упраўленні грамадзянскай авіяцыі. У Акадэміі навук Беларусі ў гасцей адбылася дзелавая размова па праблемах, звязаных з асваеннем паветранай і касмічнай прасторы.

На амерыканскіх спецыялістаў вялікае ўражанне зрабілі распрацоўкі, якія вядуцца ў АН БССР у гэтай галіне. Гасцям была прадэманстравана унікальная авіякасмічная спектраметрычная сістэма «Скіф-М», якая выкарыстоўваецца для дыстанцыйных вымярэнняў, рэгістрацыі спектраў мясцовасці, класіфікацыі і картаграфавання расліннасці, глебы, пошуку біяпрадукцыйных раёнаў акіяна. Адна з каштоўных асаблівасцей спектрометра ў тым, што інфармацыю ён апрацоўвае непасрэдна на борце касмічнага карабля. Не выпадкова пры перагрузцы самай каштоўнай апаратуры з «Салюта-7» на станцыю «Мір» адным з першых касманаўты ўзялі беларускі прыбор.

Цікавасць гасцей выклікалі інтэрферэнцыйныя святлафільтры для тэлевізійных сістэм, якія садзейнічалі поспеху міжнароднага праекта «Венера-Галей», шматразова выпрабаваная на арбітальных станцыях штучная глеба для касмічных агародаў, металапалімерныя матэрыялы для выкарыстання ва ўмовах глыбокага вакууму і нізкіх тэмператур, высокатэмпературная звышправодная кераміка, новы метад запісу інфармацыі на магнітны носьбіт.

На думку ўдзельнікаў сустрэчы, гэтае знаёмства дапаможа развіццю супрацоўніцтва ў такіх перспектыўных галінах навукі і тэхнікі.

## ГОСЦІ З АРГЕНЦІНЫ

У Мінску знаходзілася дэлегацыя Грамадзянскага радыкальнага саюза Аргенціны ў складзе члена кіруючага савета гэтай партыі дэпутата Нацыянальнага кангрэса Г. Мартынеса і дэпутата правінцыяльнага савета Р. Бялічыча.

Дэлегацыя была прынята намеснікам Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. Мікулічам. Адбылася сустрэча ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі.

ВІЗІТЫ

## УМАЦАВАННЕ СУВЯЗЕЙ

Многім мінчанам, якія прыйшлі на канцэрты ў Палац культуры беларускіх чыгуначнікаў, напомнілі пра часы іх маладосці цудоўныя танцы і мелодыі кітайскіх артыстаў. Іх выканалі вядучыя спевакі, танцоры і музыканты КНР, якія прыбылі ў складзе дэлегацыі Кітайскага народнага таварыства дружбы з заграніцай для ўдзелу ў мерапрыемствах, прысвечаных 40-годдзю абвяшчэння Кітайскай Народнай Рэспублікі.

У Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі адбылася сустрэча з актывістамі рэспубліканскага аддзялення ТСКД, дзеячамі мастацтва.

Выступаючы на ёй, кіраўнік дэлегацыі з Пекіна Лі Чжычао падкрэсліў, што ўмацаванне культурных сувязей дзвюх краін стала канкрэтным кроком у аднаўленні традыцыйнай дружбы паміж нашымі народамі.

На канцэрце гледачы, акрамя песень і танцаў, змаглі ацаніць выдатнае майстэрства кітайскіх акрабатаў і ілюзіяністаў. Госці з КНР азнаёміліся з памятнымі мясцінамі сталіцы Беларусі.

РАСПРАЦОЎКІ

## СТВОРАНЫ ЎПЕРШЫНЮ

Высокамеханізаванае прадпрыемства малой магутнасці па выпуску керамічнай цэглы ўпершыню ў нашай краіне створана на магілёўскім заводзе «Строммашына». Такая вытворчасць можа вырабляць пяць мільёнаў штук сырцу ў год.

Усе тэхналагічныя аперацыі тут ажыццяўляюцца з пульта кіравання з дапамогай мікрапрацэсара. Форму і рысунак цэглы можна мяняць у залежнасці ад сыравіны і дабавак, а таксама выпускаць як звычайную, так і абліцовачную цэглу, у тым ліку высокапустотную. Для пераходу на вытворчасць з аднаго асартыменту на іншы патрабуецца ўсяго некалькі мінут, каб змяніць фармуючую аснастку. Больш таго, тэхналогія дазваляе на гэтым жа абсталяванні з дапамогай невялікай мадэрнізацыі рабіць і чарапіцу.

Такі цагельны завод можна размясціць на невялікай пляцоўцы памерам 18х120 метраў, работу яго здольны забяспечыць у тры змены ўсяго дванаццаць чалавек. Звычайна дробныя прадпрыемствы падобнага тыпу стратныя, гэта ж абяцае не менш дваццаці працэнтаў рэнтабельнасці.

Мадэль магілёўскай навінкі выбрана з сарака прадстаўленых на ўсесаюзным конкурсе на лепшы праект комплекснага механізаванага завода малой магутнасці па выпуску керамічнай цэглы. На галаўным прадпрыемстве — заводзе «Строммашына» — выраблены ўжо тры такія цагельныя заводы па заказах калгасаў Беларусі. Штогадовую вытворчасць у перспектыве намячаецца давесці да ста.

АЎКЦЫЁН



**У Мінску прайшоў кірмаш-аўкцыён навукова-тэхнічных распрацовак і новаўвядзенняў «Крок-89». Удзел у ім прынялі рацыяналізатары, вынаходнікі, людзі творчай думкі з розных гарадоў краіны. Зацікавіў кірмаш-аўкцыён і групу італьянскіх бізнесменаў. Яны будуць прысутнічаць на пасяджэнні дзелавога клуба «Крок-89». У праграме кірмашу-аўкцыёна не толькі дэманстрацыя і продаж навукова-тэхнічнай прадукцыі, але і семінары па развіццю кааператыўнага руху, знешнеэканамічнай дзейнасці.**
**НА ЗДЫМКУ: у зале, дзе праходзіць кірмаш-аўкцыён.**

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

## ДА ДЗЁН ЧССР У БССР

**З 15 па 22 лістапада ў сталіцы нашай рэспублікі пройдуць Дні чэхаславацкай эканомікі і тэхнікі. Ініцыятарамі гэтага мерапрыемства, якое, дарэчы, мае адбыцца другі раз, сталі Чэхаславацка-Савецкая гандлёвая палата, а таксама Гандлёва-прамысловыя палаты СССР і БССР.**

Асноўныя мэты маючых адбыцца Дзён — бліжэй пазнаёміць савецкіх спецыялістаў з дасягненнямі і магчымасцямі чэхаславацкай эканомікі, навукі і тэхнікі, залучыць іх да новых форм супрацоўніцтва, наладжвання прамых сувязей, расшырэння кааперацыі і стварэння сумесных прадпрыемстваў.

Гэта асабліва важна сёння, калі паміж нашымі краінамі вядуцца работы па каардынацыі дзяржаўных планаў на наступную пяцігодку. Рэальныя перадумовы для фарсіравання перспектыўных форм супрацоўніцтва адкрыліся пасля лютаўскай сустрэчы прэм'ер-міністраў СССР і ЧССР Адамеца і Рыжкова, дзе была падпісана Канцэпцыя эканамічнага і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі на бліжэйшыя 15—20 гадоў, якая паклала пачатак каардынацыі эканамічнай палітыкі. У гэтай Канцэпцыі намечаны канкрэтныя шляхі паглыблення падзелу працы паміж Чэхаславакіяй і Савецкім Саюзам на падставе найноўшых дасягненняў навукі і тэхнікі, структурных змяненняў у народнай гаспадарцы абедзвюх краін, шырокага развіцця ўнутрыгаліновай кааперацыі і спецыялізацыі вытворчасці, удасканалення структуры ўзаемнага гандлю. Канцэпцыя змяшчае прапановы па супрацоўніцтву ў галіне будаўніцтва новых і рэканструкцыі існуючых прадпрыемстваў, па больш поўнаму выкарыстанню сумеснага навуковага патэнцыялу. Прыкладам пачатку рэалізацыі гэтых праграм, поспех якіх будзе ў першую чаргу залежаць ад актыўнасці асноўных вытворчых і навукова-даследчых звенняў, з'яўляецца падрыхтоўка дагавора па заснаванню першага сумеснага прадпрыемства па вытворчасці мікрасхем вялікай інтэграцыі. Гэтае прадпрыемства будзе размешчана на тэрыторыі ЧССР пры ўдзеле мінскага вытворчага аб'яднання «Інтэграл».

У праграме маючых адбыцца Дзён будуць прачытаны 27 дакладаў, у якіх спецыялісты ЧССР азнаёмяць слухачоў з дасягненнямі брацкай краіны ў галінах машынабудавання, аховы здароўя, тэкстыльнай і харчовай прамысловасці. Адбудзецца падпісанне дзелавых кантрактаў двума бакамі на вырабы, якія будуць экспанавацца ў час Дзён. Тут жа пройдзе сустрэча з ветэранамі Вялікай айчыннай вайны, што вызвалялі Чэхаславакію.

У выставачным комплексе «Мінск экспо» Гандлёва-прамысловай палаты БССР адбылася папярэдняя прэс-канферэнцыя, прысвечаная Дням чэхаславацкай эканомікі і тэхнікі. Выступіўшы на ёй намеснік старшыні прэзідыума ГПП БССР В. Некрашэвіч, старшыня Чэхаславацка-Савецкай гандлёвай палаты Ян Новатны, дырэктар маючых адбыцца Дзён Марыя Шперава, начальнік сакратарыята Чэхаславацкай гандлёвай і прамысловай палаты Іржы Хауптман, кіраўнік Мінскага філіяла гандлёвага прадстаўніцтва ЧССР у СССР Йозеф Гласны, іншыя чэхаславацкія спецыялісты падрабязна пазнаёмілі прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі з праграмай Дзён, адказалі на шматлікія пытанні журналістаў.

ГАНДАЛЬ





**«Свіслач» — так называецца новы Дом гандлю, які адкрыўся ў Мінску па вуліцы Старажоўскай, недалёка ад Троіцкага прадмесця. У прасторных і ўтульных гандлёвых залах агульнай плошчай 1 600 квадратных метраў прадстаўлены тавары для жанчын.**
**Сучаснае гандлёвае абсталяванне, прымяненне прагрэсіўных форм гандлю, увага і ветлівасць прадаўцоў, прыгожае афармленне інтэр'ера ствараюць максімум зручнасцей для пакупнікоў. Калектыў «Свіслачы» плануе штомесяц рэалізоўваць на 700 тысяч рублёў тавараў. Другая чарга Дома гандлю, дзе будуць прадстаўлены тавары для мужчын, адкрыецца ў 1991 годзе.**

**НА ЗДЫМКАХ: новы Дом гандлю; у гандлёвых залах.**

# МІЛЬЁНЫ Ў ФОНД ЧАРНОБЫЛЯ

ПА ІНІЦЫЯТЫВЕ шэрагу вытворчых калектываў, вучоных Акадэміі навук БССР, а таксама Белсаўпрофа, ЦК ЛКСМБ і Магілёўскага абкома КПБ быў праведзены рэспубліканскі суботнік з высакароднай мэтай папоўніць фонд сродкаў, якія накіроўваюцца на ліквідацыю вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. 2 мільёны 358 тысяч чалавек занялі рабочыя месцы.

Больш мільёна сельскіх працаўнікоў і работнікаў перапрацоўчых прадпрыемстваў выйшлі на ўборку бульбы, гародніны і фруктаў, ільну, нарыхтоўвалі кармы. У дзень суботніка шмат зроблена на будаўнічых аб'ектах рэспублікі. Усяго ўзвядзеннем дамоў і добраўпарадкаваннем тэрыторыі было занята 188 тысяч чалавек.

Работнікі Беларускай чыгункі прадаставілі ў гэты дзень для адгрузкі бульбы 920 вагонаў, што задаволіла ўсе заяўкі грузаадпраўшчыкаў. У сістэме Міністэрства транспарту БССР у суботніку ўдзельнічала 80 тысяч чалавек, было выкарыстана больш за 21 тысячу грузавых аўтамабіляў, 8 тысяч аўтобусаў. Аб'ём перавозак склаў 594 тысячы тон. Асабліва масавым быў суботнік у раёнах, якія пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі.

Па папярэдніх даных, у фонд ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС будзе пералічана звыш 8 мільёнаў рублёў.

У той жа дзень адбылася грамадская акцыя пад назвай «Чарнобыльскі шлях». Сотні людзей — мінчан і жыхароў трох раёнаў, што пацярпелі ў час аварыі на ЧАЭС, прайшлі па цэнтральнай магістралі Мінска. На плошчы Леніна адбыўся вялікі мітынг. На ім выступілі народныя дэпутаты СССР пісьменнік А. Адамовіч, С. Шушкевіч, акадэмік Я. Веліхаў.

***

У сувязі з ажыццяўленнем у Беларускай ССР мерапрыемстваў па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС Міжнароднае агенцтва па атамнай энергіі (МАГАТЭ) прыняло рашэнне аб выдзяленні рэспубліцы да канца гэтага года пяцідзесяці тысяч долараў ЗША для аказання тэрміновай тэхнічнай дапамогі.

На гэтыя сродкі будуць набыты дазіметрычнае абсталяванне і прыборы для выкарыстання іх у раёнах, забруджаных радыеактыўнымі элементамі. У перспектыве агенцтва плануе пачаць ажыццяўленне доўгатэрміновага праекта тэхнічнай дапамогі, рэалізацыя якога дазволіць стварыць эфектыўную сістэму маніторынга за ўзроўнем радыеактыўнасці тэрыторыі, што падверглася радыеактыўнаму заражэнню.

## ЭТНАГРАФІЧНЫЯ НАТАТКІ ПІСЬМЕННІКА

# КАРАНІ

(Працяг. Пачатак у №№ 38, 40).

Маталяне спрадвеку лічыліся вольнымі людзьмі. Гэтым яны ганарыліся. Існуе легенда, нібы каралева Бона, італьянка па паходжанні, стаўшы жонкаю польскага караля Сігізмунда І (Старога), вырашыла зрабіць агледзіны сваіх палескіх уладанняў. Завітала яна і ў Моталь. І адразу звярнула ўвагу на такое: людзі не падалі на калені, убачыўшы карэту, а толькі ледзь прыкметна схілялі галовы. І былі яны не басанож, а ў пасталах. Гэта спадабалася каралеве, і яна стала перасяляць сюды сваю чэлядзь. Па паданнях, такія прозвішчы, як Палто, Кульбеда, што распаўсюджаны ў Моталі, з'яўляюцца італьянскімі, а прозвішча Кузюр мае нямецкае паходжанне.

Яшчэ адна легенда. Жыхары Моталя доўгі час былі падданымі караля. Калі той паміраў, вёска адпраўляла хадака да новага — за пацвярджэннем прывілеі. Аднойчы з такім даручэннем з Моталя пайшоў Панядзелец. Кароль выдаў яму новую прывілею, як следам з'яўляецца ваявода і просіць за заслугі перад каралеўствам адпісаць яму вёску Моталь. Кароль сказаў: толькі што Панядзельцу прывілею даў! Калі дагоніш яго, адбярэш той пергамент, тады, так і быць, адпішу табе Моталь. Кінуўся ваявода на Палессе, а дагнаць Панядзельца не змог. А Панядзелец уведаў, што за ім пагоня, і перадаў жонцы той пергамент-прывілею. Жонка пад намітку яе і — з хаты. Уварваўся ваявода з дружынаю ў хату, стаў біць Панядзельца, дапытвацца, дзе падзеў прывілею. Але чуў адно: «Вам, панам, толькі кашу есты, а не з Понедэльцам воюваты!» Так і памёр чалавек пад бізуном, а прывілеі не выдаў. Маталяне і на гэты раз вольнымі засталіся.

А вось што было, кажуць, у гады Паўночнай вайны. Аднойчы ў Моталі спыніўся на начлег шведскі атрад. Адзін зух афіцэр стаў чапляцца да гаспадынінай дачкі. Маці не вытрымала здзекаў, выхапіла з печы патэльню і лінула з яе ў вочы прыхадню. Афіцэр сканаў.

Гэта магло быць і на самай справе. Бо і цяпер у Моталі пра чалавека, чырвонага тварам, кажуць: ашпараны, як швэд. А скваркі ў вёсцы называюць не інакш, як швэдамі.

І яшчэ. Жыў у Моталі Румак Змітро, які вызначыўся ў час руска-японскай вайны. Было так. Іх карабель захапілі ворагі, усю каманду знялі з палубы і павезлі ў палон. А Румак з таварышам па службе ўратаваліся — схаваліся ў комін.



Калі ўсё ўгаманілася, апусцілася ноч, а над морам падняўся туман, адважныя маракі раскачагарылі топку і непрыкметна прывялі карабель да сваіх берагоў. Вядома, смельчакоў узнагародзілі. Румак стаў поўным Георгіеўскім кавалерам. А вярнуўся дадому — жыў бедна, зямлі не меў, страву, як кажуць, толькі рыбаю засмачваў. І паехаў Змітро Аляксеевіч шукаць долі ў Сібір, дзе Румаку давялося яшчэ і партызаніць, ваяваць з Калчаком. Там, у Омскай вобласці, ён і памёр. Але ў Моталі і цяпер жыве памяць аб мужным земляку.

III

Увогуле, Моталю шанцавала на цікавых людзей. Тут амаль паўвека займаўся фатаграфіяй Аляксей Мінюк. Здымаў усё, што трапляла ў аб'ектыў. І пакінуў пасля сябе неацэнны скарб — звыш чатырох тысяч негатываў.

Балюк, даведаўшыся пра гэта, адразу кінуўся да Мінюкоў. Жонка нябожчыка, Зося Фёдараўна, і сын Аляксандр, не задумваючыся, перадалі негатывы музею. У выніку ў памяшканні Мотальскага цэнтральнага Дома культуры адкрыта пастаянна дзеючая фотавыстаўка.

Агледзім хоць частку яе.

Выстаўка пачынаецца з партрэта самога Мінюка, чалавека ў гадах, мысліцеля з твару, апранутага ў чорны гарнітур і баваўняную сарочку ў «клетачку». Уважлівыя вочы пазіраюць на вас, нібы пытаюцца: ну як вы зараз?.. Тут, на стэндзе, і пасведчанне на права займацца фатаграфіяй, выдадзенае Аляксею Андрэевічу яшчэ на пачатку трыццатых гадоў войтам гміны. Далей ідуць раздзелы выстаўкі.

**Як раней апраналася моладзь.** Багаты этнаграфічны матэрыял гэтага раздзела! Мінюк ведаў: нішто не стаіць на месцы, ўсё мяняецца, і наўмысна звярнуў увагу на апратку аднавяскоўцаў—фатаграфаваў іх буйным планам, часцей у поўны рост, каб добра былі бачны дэталі адзежы. Вось маладзіцы ў кофтах-вышыванках, сукнях, хустках, нават у «матросках». Такіх строяў цяпер не носяць у Моталі, але калі б хто пажадаў аднавіць крой ці вышыўку — зрабіць было б няцяжка: фатограф пастараўся добра. А вядомыя мотальскія



кажухі? Як яны пасуюць хлопцам! Як элегантна выглядаюць у тых кажушках мотальскія дзяўчаты! Дарэчы, мода на мотальскія кажухі не сышла і ў нашы дні. На Палессі яны і цяпер карыстаюцца вялікім попытам.

**Як адпачывала моладзь.** Тут большасць здымкаў групавых. Дзяўчаты і хлопцы сядзяць на лаўцы пры хаце. Усе па-святочнаму апрануты. А вось маладыя маталяне стаяць каля хаты, стаяць каля плота. Некалькі хлопцаў з веласіпедамі ці, як тут называюць, роварамі. Пазіраюць у аб'ектыў з выклікам: маўляў, [illegible]ай нашых! Вунь на якую вы[illegible]ду збіліся!.. А гэта хто? Куды выправіліся? На вяселле? У госці? Юнакі і дзяўчаты важна сядзяць на возе, хоць той-сёй і басанож.

**Як спраўлялі вяселле.** Звычайнае вясковае застолле. Але па тварах людзей бачна: нечага не хапае. Праз хвіліну здагадваешся: маладых! Вунь яны, на суседнім здымку. Жаніх, нявеста, дружына... А там і сваты, едуць у драбінах, абвязаныя знакамітымі мотальскімі ручнікамі. Для ўсіх такі радасны дзень! Быццам кожны з удзельнікаў вяселля хоча загадаць: імгненне, спыніся! І яно спынілася. Дзякуючы фотамагу з Моталя.

**У якіх хатах жылі.** Вядома, іх не параўнаеш з цяперашнімі. Былі яны невялічкія і стаялі пад саламянымі стрэхамі. Невыказную тугу выклікае здымак адзінокай хаціны, што побач разгалістай ліпы. Зіма. Усё навокал гола. І нічагусенькі ля тае хаціны. Хоць бы хлявушок ці скляпок. Толькі ўзбоч, вуліцай, некуды ідуць два дзядзькі ў шэрых шынялях... А вунь на тым здымку насупраць хаты, таксама крытай саломай, стаяць трое хлопцаў. Выгляд заліхвацкі, хоць і басанож. А што за нагавіцы на іх! У іншай цяперашняй маталянкі спаднічка вузейшая... А вось яшчэ адзін дакумент, які гаворыць, што маталяне і тады былі не лыкам шытыя. На фоне амаль разваленай хаціны — двое. Таксама босыя, хоць на двары, па ўсім відаць, восень. Адзін з іх у куртцы, другі ў сарочцы. Як бы выбеглі насустрач дзядзьку Мінюку, каб засведчыць гісторыі свае асобы. Увесь выгляд іхні гаворыць: што б там ні было, а цану сабе ведаем!..

**Як працавалі.** Спрадвеку маталяне слылі добрымі лесарубамі, плытагонамі ці бурлакамі. Вунь адзін з іх, высокі і дужы, гоніць плыт па Ясельдзе. Відно, што нялёгка плытагону, відно, што высільваецца, але ўсё ж не дае плыту прыбіцца да берага. А там вунь — цэлая талака плытагонаў. Ім лягчэй. Тут і дапамагчы адзін аднаму зможа, калі ўзнікне патрэба. Тут і словам перакінуцца можна, песню зацягнуць, калі плыты мінуць луку і выйдуць на шырокі стрыжань ракі. Але зноў жа: куды ні зірні — усюды вада, вада. І бёрны. І кожнае патрабуе нагляду, увагі. Таму доўгія жэрдкі заўсёды ў руках, заўсёды напагатове ў мотальскіх плытагонаў. Цяжкая праца!

**Яшчэ штрыхі да партрэта вёскі.** Чалавек жыве з працы рук сваіх. Паляшук — не выключэнне. Адзін з раздзелаў фотавыстаўкі добра засведчыў гэта. Нельга не звярнуць увагі, напрыклад, на такое. Жанчына з дошкаю на грудзях. На дошцы — нумар 726. (Гэтак заваёўнікі прымушалі нашых людзей здымацца на пашпарт)... Партызанскі разведчык на кані і з аўтаматам у руках... Напрадвесні людзі едуць на балота па сена... Стары вятрак сярод раўнюткага поля... Мужчыны-пільшчыкі з падоўжнаю пілою. Касцы ў лузе... Гаспадар на сваім панадворку паяльнай лямпай смаліць кабанчыка... Малады кінамеханік заводзіць рухавічок...

Усё з жыцця. І ўсё — напамін аб мінулым.

IV

Калі фоталетапіс Мінюка адлюстроўвае ў асноўным колішнюю матэрыяльную культуру маталян, то аповяд Вольгі Мацукевіч, кіраўніка мясцовага народнага фальклорна-этнаграфічнага тэатра, падсвечвае і другі бок таго медаля — культуру духоўную.

— Маталяне даўно здружаны з песняй, — расказвала мне Мацукевіч. — Спрадвеку добра спявалі. І пры тутэйшай царкве быў вялікі хор. Але пялі ў асноўным на зборнях. Што такое зборня, пытаеце? А гэта месца, дзе збіралася вечарамі моладзь. Тыдзень у адну хату хадзілі, тыдзень у другую. А ў каго не было магчымасці сабрацца па якой прычыне, той наймаў хату суседа. Дзяўчаты вышывалі там, вязалі, пралі.

Яраслаў ПАРХУТА.



**НА ЗДЫМКАХ: фатограф Аляксей МІНЮК з вёскі Моталь; у такіх хатах жылі сяляне Моталя ў першыя пасляваенныя гады; уборка сена ў наваколлі Моталя. Канец 40-х гадоў.**

(Заканчэнне будзе).

*АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю З КАМПЕТЭНТНЫМ СУБЯСЕДНІКАМ*

# НА ЗЛАЧЫННАСЦЬ— УСЁЙ ГРАМАДОЙ

**На пытанні карэспандэнта газеты «Голас Радзімы» Яўгена ТУРАЙКЕВІЧА адказвае міністр унутраных спраў БССР генерал-лейтэнант Віктар ПІСКАРОЎ.**



**— Віктар Аляксеевіч! Бадай кожны дзень радыё, тэлебачанне, газеты расказваюць аб росце злачыннасці ў краіне. Прыводзяць факты, ад якіх нам, шчыра кажучы, становіцца няўтульна. Як адзін з небяспечных рэгіёнаў упаміналася і Беларусь. Ахарактарызуйце, калі ласка, становішча ў рэспубліцы.**

— Што сталі рэгулярна публікаваць крымінальную статыстыку — гэта добра. Народ павінен ведаць, што ў нас адбываецца на самай справе, ведаць, што трывога і заклапочанасць і ўлад, і грамадскасці наконт гэтага сёння абгрунтаваныя. Звернемся да фактаў па нашай рэспубліцы. Становішча са злачыннасцю сапраўды сур'ёзнае. Кожныя суткі ў нас учыняюцца 164 злачынствы, у тым ліку адно наўмыснае забойства, 6 разбояў і грабяжоў, 70 крадзяжоў дзяржаўнай, грамадскай і асабістай маёмасці насельніцтва і многае іншае.

**— Статыстыка, трэба прызнацца, невясёлая. Аднак злачыннасць сама сабой не нараджаецца. Яе выклікаюць нейкія прычыны. Той-сёй з людзей рост злачыннасці звязвае з перабудовай, дэмакратызацыяй, публічнасцю. Іншыя лічаць, што многае негатыўнае запазычана з жыцця развітых капіталістычных краін. У чым вы, таварыш міністр, бачыце карані зла! Якая тут прычына!**

— З кожным годам павялічваецца колькасць савецкіх людзей, якія пабывалі за мяжой, а таксама іншаземцаў, хто прыязджаў у СССР. Некаторыя з такіх турыстаў прывозяць у нашу краіну не толькі сувеніры, прамысловыя тавары, але і парнаграфію, фільмы жахаў, баевікі, наркотыкі... Не трэба і даказваць, што гэта «прадукцыя» робіць адмоўны ўплыў на нашу моладзь. Можна, напрыклад, прывесці факт з крымінальнай практыкі, калі пасля прагляду фільма «Рэмба» падлетак учыніў цяжкае злачынства. Але гэта толькі маленькі працэнт. Не ў запазычванні з Захаду галоўнае. Калі быць аб'ектыўнымі, трэба звярнуцца да нашых унутраных праблем, што сталі прычынай росту злачыннасці.

Той-сёй успрыняў дэмакратыю як уседазволенасць, магчымасць ігнараваць закон, а публічнасць — як дазвол публічна і беспакарана таптаць існуючыя ўстоі савецкага ладу жыцця, каб дагадзіць сваім амбіцыям. А таму здаровы працэс сацыяльнай раскаванасці людзей часам перарастае ў анархію, масавыя непарадкі.

Карані такіх з'яў — у перапляценні цэлага шэрагу прычын і абставін. Калі гаварыць коратка, то гэта эканамічныя цяжкасці, незадаволенасць попыту людзей на прадуктовыя, прамысловыя тавары, бытавыя паслугі...

**— Значыць, Віктар Аляксеевіч, калі на нашых рынках, у магазінах будзе дастатак прамысловых і прадуктовых тавараў, то і злачыннасць спадзе!..**

— І гэтага недастаткова. На сённяшні дзень мы павінны канстатаваць, што пакуль у нашых людзей не на належным узроўні культурная і маральная адукаванасць, аслаблена дысцыпліна, назіраецца невыкананне законаў, норм сацыялістычнага грамадства. Таму барацьба са злачыннасцю — справа і тых, хто вырабляе прамысловыя і прадуктовыя тавары, і тых, хто выхоўвае моладзь — школы, іншыя навучальныя ўстановы, і працоўных калектываў — заводаў, фабрык, калгасаў, навуковых устаноў і, вядома ж, тых, хто ахоўвае правапарадак.

**— Як вядома, значную частку злачынстваў у рэспубліцы робіць моладзь. Што тут — заканамернасць ці выпадковасць!**

— Думаю, заканамернасць. І вінаватыя ў гэтым мы, дарослыя. Разгледзім некалькі момантаў. Пачнём з парадокса: спадчыннікі міліянераў з юнацтва далучаюцца да работы, прычым фізічнай, і не лічаць гэта ганебным. А нашы дзеці — дзеці рабочых і сялян — у такім жа ўзросце нярэдка, як гаворыцца, лынды б'юць. Чаму ж не арганізаваць, скажам, вучнёўскія кааператывы па абслугоўванню паркаў адпачынку ці дастаўкі пошты, продажу марожанага ці кандытарскіх вырабаў... Падлетак будзе мець зароблены рубель і ведаць яму цану.

Трэба, каб у час... канікулаў вучань меў магчым... працаваць на прадпрые...ве, тым больш, што працоўны цэнз зніжаны да 14 гадоў — з такога ўзросту ён мае права стаць рабочым. Не сакрэт: іншыя дзеці не хочуць ці не могуць вучыцца, а на завод ці фабрыку — паспрабуй улад... ца! Не выпадкова такая ...прыкаянасць ужо ў гэтым годзе прывяла на лаву падсудных 233 падлеткаў.

Яшчэ адзін важны момант. Калі малады чалавек робіць злачынства, то, як правіла, бацькі абвінавачваюць у гэтым усіх: школу, працоўны калектыў, праваахоўныя органы, толькі не сябе, забываючы, што фарміраванне чалавека закладваецца ў сям'і. А роля яе сёння значна аслаблена. Штогод у рэспубліцы распадаюцца больш за 30 тысяч сямей. За гэтай сумнай лічбай — дзесяткі тысяч скалечаных дзіцячых душ. Сёння на ўліку ў міліцыі значыцца 15 тысяч непаўналетніх і 25 тысяч «няўдачных» сямей.

Успомнім і такую бязрадасную рэчаіснасць нашага часу, як дзіцячыя дамы і інтэрнаты. А ў іх — больш дзевяці тысяч сірот. Як ім без бацькоўскай увагі і хатняга цяпла? Як адаб'ецца гэта на іх лёсах?

Нас павінны насцярожыць даныя сацыёлагаў: сёння маці ўдзяляе дзіцяці ў лепшым выпадку 15 мінут у дзень. Пры анкетаванні школьнікі заяўляюць, што іх бацькі па некалькі дзён на тыдзень не «перакінуцца» з імі двума-трыма словамі: спасылаюцца на занятасць. А занятасць — чытанне газет, прагляд тэлевізійных перадач і (што пакуль здараецца нярэдка) прастойванне ў чэргах за моцнымі напіткамі. У гэтым выпадку ці варта здзіўляцца, калі падлетак ідзе на вуліцу, трапляе ў падазроныя кампаніі.

Каб узрасціць дабро, патрэбна глеба. Такой глебай з'яўляецца культура, павага да мінулага. Успомніце: нацыя, якая не мае гісторыі, асуджана на забыццё. Таму вельмі сумна, што сёння замест таго, каб усяляць у моладзь упэўненасць у заўтрашнім дні, выхоўваць гонар за Радзіму, у сродках масавай інфармацыі, з трыбун толькі і гучыць ганьбаванне ледзь ці не ўсяго паслярэвалюцыйнага перыяду. Ёсць такая мудрасць: калі ты страляеш ў мінулае з пісталета, будучыня выстраліць у цябе з гарматы. Ніякая гісторыя не складаецца з адных цёмных плям. У любой гісторыі ёсць выдатныя людзі, памяць аб іх павінна захоўвацца ў многіх пакаленнях, а прыклад — варты пераймання.

**— Алкагалізм, гвалтаўніцтвы, грабяжы... Усе гэтыя віды злачынстваў даўно вядомыя, характэрныя для кожнай краіны. Але сёння праваахоўныя органы рэспублікі сутыкнуліся з новымі відамі злачынстваў...**

— Перш за ўсё трэба сказаць аб арганізаванай злачыннасці. Вы ж усё роўна пра гэта спытаеце. На гэтую тэму сёння многа гаворыцца і пішацца, на жаль, не заўсёды кваліфікавана. Што ж адрознівае мафію? Устойлівыя крымінальныя сувязі, якія дазваляюць паспяхова ўчыняць злачынствы, знаходзіць аб'екты замаху, перашкаджаць выкрыццю вінаватых і аказваць дапамогу тым, хто адбывае пакаранне. Асноўная прыкмета мафіі — карумпіраванасць, зліццё злачыннай групы з прадстаўнікамі дзяржаўных органаў. Гэта арганізацыя, якая плануе сваю дзейнасць на працяглы перыяд, мае вялікія сувязі ў розных сферах.

Падсумоўваючы сказанае, адзначу: мы пакуль можам гаварыць не аб існуючай у Беларусі арганізаванай злачыннасці, а аб яе элементах. Яны ёсць. І было б дзіўна, калі б іх не было. Па-першае, мы ведаем аб існаванні ценевай эканомікі, аб падпольных дзялках, валютчыках, спекулянтах, фарцоўшчыках, нядобрасумленных работніках гандлю і сферы быту. Мы ведаем, што не ўсё добра ў кааператараў, сярод іх нямала раней судзімых, махляроў. Па-другое, існуе асяроддзе для прафесійнай арганізаванай злачыннасці, таму што ў рэспубліцы 19 тысяч чалавек фармальна падпадаюць пад адміністрацыйны нагляд, 5 тысяч асоб, якія жывуць паразітычна, гэта дармаеды, наркаманы, прастытуткі... У калоніях больш за 7 тысяч асуджаных тры і больш разоў. Усе гэтыя людзі зусім не імкнуцца працаваць сумленна.

У рэспубліцы загаварылі аб рэкеце. Яго з'яўленне звязана з рэзкай палярызацыяй даходаў насельніцтва, не заўсёды сумленна заробленых, з кааператывамі. Да крымінальнай адказнасці прыцягнута звыш 30 рэкеціраў, 50 знаходзяцца пад следствам. Эфектыўнасць нашай работы была б значна большай, калі б усе пацярпеўшыя заяўлялі аб злачынствах у міліцыю. Але многія з тых жа кааператараў стараюцца лепш маўчаць. Прычын некалькі. Гэта, як мы адзначалі вышэй, і незаробленыя даходы — хабар, спекуляцыя і г. д., боязь помсты з боку рэкеціраў і тое, што нямала сярод кааператараў раней асуджаных, ім, натуральна, зусім не хочацца лішні раз трапляць на вочы міліцыі.

**— Вось мы, Віктар Аляксеевіч, і падышлі да пытання эфектыўнасці работы праваахоўных органаў. Расце злачыннасць, а як ідуць справы з раскрыццём!**

— Буду аперыраваць толькі фактамі. Сёлета за першае паўгоддзе раскрыта амаль на 8 тысяч злачынстваў больш чым за аналагічны перыяд мінулага года, прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці больш 600 тысяч парушальнікаў.

Шырока ў друку каменціраваліся і атрымалі грамадскае адабрэнне аперацыі супрацоўнікаў ...С па выкрыццю ў Мінск... ...упы фальшываманетчыкаў, спекулянтаў прамысловымі таварамі, у Віцебску і Магілёве — легкавымі аўтамабілямі, у Гродне — сельгаспрадукцыяй, у Брэсце — імпартнымі таварамі.

Што... выкрываюцца сотні замас...ваных грабяжоў у гандлі, ...ысячы фактаў падману пакупнікоў і парушэнняў правілаў гандлю. Ужо сёлета выяўлена больш за 15 тысяч карыслівых злачынстваў, 3,7 мільёна рублёў непрацоўных даходаў.

**— Вы, таварыш міністр, назвалі толькі станоўчыя прыклады...**

— Вядома, з раскрыццём злачынстваў у рэспубліцы справа ідзе не так, як нам хацелася б. Толькі ў гэтым годзе не раскрыта каля 9 тысяч з іх. Прычын таму некалькі.

У шэрагу выпадкаў не хапае нашым супрацоўнікам прафесіяналізму. Таму мы значна паляпшаем навучанне нашых кадраў, асабліва на станоўчых прыкладах, бо ў кожным аддзеле ёсць вопытныя работнікі. Такія, напрыклад, як оперупаўнаважаны Мікалай Кутасевіч з Мінска, які раскрыў 27 злачынстваў.

Далей: пакуль у нас недасканалае заканадаўства. Узяць той жа доказ. Ва ўсіх краінах кіна- і фотадакументы, гуказапіс служаць доказамі па справах, у нас — не. Таму нават яўнага злачынцу не заўсёды ўдаецца прыцягнуць да адказнасці.

Частка артыкулаў крымінальнага і адміністрацыйнага кодэксаў не працуе, нярэдка правапарушальнікам не заўсёды аргументавана назначаецца лёгкае пакаранне. Патрэбен факт?.. Калі ласка. Магілёўскі абласны суд прыгаварыў загадчыцу складам гатовай прадукцыі вытворчага аб'яднання «Хімвалакно» Н. Уладзіміраву ўсяго да двух гадоў папраўчых работ. І гэта за крадзеж вырабаў на суму 141, 5 тысячы рублёў!

У мінулыя гады вялікую дапамогу міліцыі па падтрыманню грамадскага парадку аказвалі дружыннікі. Але варта толькі было адмяніць льготы ў выглядзе трох дадатковых дзён да водпуску, як колькасць выхадаў дружыннікаў на дзяжурствы за апошнія тры гады скарацілася на 75 тысяч. А ў выніку гэта прыкметна адбілася на росце вулічнай злачыннасці.

Яшчэ адзін нюанс. Расце колькасць злачынстваў, адпаведна — нагрузка на супрацоўнікаў міліцыі, а колькасць апошніх не павялічваецца. Сёння на оперупаўнаважанага росшуку прыпадае ў сярэднім да 35 заяў аб злачынствах, у многіх следчых у рабоце знаходзіцца па 30—40 спраў. Людзі перагружаны. Рабочы дзень у следчага нярэдка доўжыцца 12—14 гадзін, практычна няма выхадных. А супрацоўнікаў не становіцца больш.

**— У мінулым колькасць злачынстваў у гарадах рэспублікі была значна вышэйшай, чым у вёсках. Аднак, мяркуючы па статыстыцы, і з сельскай мясцовасці прыходзяць невясёлыя паведамленні: крадзяжы, забойствы, хуліганскія выхадкі...**

— Рост злачыннасці назіраецца і ў сельскай мясцовасці. Асабліва непакояць нас частыя крадзяжы з магазінаў, іх абрабленні. За шэсць месяцаў бягучага года было зафіксавана 430 такіх выпадкаў. Бяда ў тым, што кіраўнікі спажыўсаюзаў неахвотна адпускаюць сродкі на тэхнічную ахову гандлёвых кропак ад грабежнікаў. Даўно прыйшоў час стварыць на вёсцы службу пазаведамаснай аховы.

Не знізілася колькасць правапарушэнняў на вёсцы асобамі, якія ўжываюць спіртныя напіткі. Асабліва небяспечны за рулём п'яны механізатар. Вось свежы прыклад.

У вёсцы Дуброва Глускага раёна М. Сачак, знаходзячыся ў нецвярозым стане, з саматужнага пісталета забіў жанчыну. Потым на трактары даехаў да суседняй вёскі, перасеў на аўтамабіль, якім пратараніў сустрэчную машыну. Пры затрыманні аказаў узброенае супраціўленне супрацоўнікам міліцыі.

Ёсць і іншыя правапарушэнні на вёсцы.

**— З усяго сказанага вамі, Віктар Аляксеевіч, атрымліваецца: пакуль яшчэ праваахоўныя органы не могуць даць гарантыю, што ў бліжэйшы час нам удасца спыніць рост злачыннасці.**

— Я аптыміст. І хацеў бы скончыць нашу гутарку на мажорнай ноце.

Становішча, хоць і марудна, але мяняецца. Рэальным крокам у гэтым напрамку з'яўляецца пастанова Вярхоўнага Савета СССР «Аб рашучым узмацненні барацьбы са злачыннасцю». У рэспубліцы ўтвораны часовы камітэт, выпрацавана першачарговая праграма, вельмі сур'ёзная і канкрэтная, пачалося яе ажыццяўленне, прымяненне на практыцы.

У прыватнасці, прымаюцца дзейсныя меры па забеспячэнню міліцыі ўсім неабходным: транспартам, надзейнымі і ўстойлівымі сродкамі сувязі і многім іншым.

Ідзе працэс удасканалення саміх органаў унутраных спраў. Рашуча пераадольваецца «працэнтаманія». Раней работа ўчастковага, напрыклад, лічылася добрай, калі на тэрыторыі, якую ён абслугоўваў, рэгістравалася найменшая колькасць злачынстваў. Вось і даводзілася іншаму супрацоўніку міліцыі, мякка гаворачы, закрываць вочы на некаторыя правапарушэнні. Ствараюцца спецыяльныя пададдзелы для барацьбы з арганізаванай злачыннасцю.

Сфарміраваны атрад міліцыі асобага прызначэння, які скарыстоўваецца для спынення найбольш вострых злачынных праяў. Думаю, мінчане ўжо бачылі на вуліцах горада гэтых добра падрыхтаваных і натрэніраваных хлопцаў. Іх лёгка пазнаць па новай форме. Будуць ствараццa спецыяльныя страявыя падраздзяленні ў Гомелі і Брэсце, магчыма — у Віцебску і Магілёве.

Шукаем новыя шляхі сумеснай работы з працоўнымі калектывамі, насельніцтвам, таму што толькі разам з народам, абапіраючыся на яго дапамогу, мы зможам перамагчы сацыяльнае зло — злачыннасць.

# ВОЛГА—НАША ЗАБОТА

Не так уж и далеко от истины утверждение, что когда-то на Волге икру ели ложками. Ею в изобилии торговали и по всей России, и на европейских рынках, где она не случайно получила название «русской», ибо на волжских просторах во все времена нерестилось до 90 процентов всех мировых запасов осетровых стад.

Теперь икру ложками не едят. Ее производство в СССР в 1987 году составило около 2 тысяч тонн, из которых 150 тонн продали за границу. Если поделить оставшуюся на всех жителей СССР поровну, то каждый получил бы по 6 граммов—на бутерброд раз в год и то не хватит. А сами волжане—не делись они ни с кем—довольствовались бы 30 граммами. Дело не в том, что выросло население, хотя и это, естественно, нельзя не принимать в расчет. Катастрофически уменьшаются стада осетровых. Их нерестилища в низовьях Волги оскудели—река загрязнена промышленными сбросами, а проходным породам осетровых путь к их традиционным нерестилищам в верховьях Волжского бассейна почти напрочь закрывает многоступенчатый каскад гидроэлектростанций.

Гибнет не только рыба. Гибнет сама Волга. Опутанная плотной паутиной заводов и фабрик, атомными и гидроэлектростанциями, судоходными и оросительными каналами, она поставлена на грань экологической катастрофы. В условиях сократившегося в 12 раз водообмена и одновременного увеличения объема сточных вод от промышленных и сельскохозяйственных предприятий на реке создалась тяжелая гидрохимическая обстановка. Нависла угроза существованию экосистем дельты Волги, рыбе, здоровью людей, растительному миру. Цепь малопроточных рукотворных водохранилищ привела к затоплению и заболачиванию ценных земель, уничтожению миллионов гектаров лесов и лугов. Тысячи деревень и бесчисленные историко-культурные памятники навсегда канули под воду.

«На Волге нет уже живого места, все перерыто, все искорежено»,—так оценивает ситуацию писатель Василий Белов.

Представители российской интеллигенции, обеспокоенные состоянием великой реки, в бассейне которой проживает более 60 миллионов человек, производится более 30 процентов промышленной и сельскохозяйственной продукции страны, создали в начале нынешнего года в Москве Общественный комитет спасения Волги.

Его председатель—Василий Белов. Членами комитета стали известные журналисты, писатели, ученые, юристы, деятели культуры, представители других профессий. Приняты программа и устав комитета.

В своем обращении комитет призывает всех своих единомышленников из широкой общественности России способствовать решению следующих задач:

— создание комплексной экологической программы сохранения и развития природных ресурсов и экосистем бассейна Волги и Волго-Каспийского региона и реализация ее на практике;

— создание программы сохранения и восстановления исторического и культурного наследия;

— воспитание чувства хозяина, личной ответственности каждого за все, что происходит на Волге, воспитание экологически безопасного поведения, навыков, образа жизни.

В обращении говорится, что Общественный комитет приложит все усилия, чтобы как можно быстрее началась реконструкция Волго-Камского каскада ГЭС (в конечном счете речь идет о замене гидроэлектроэнергии альтернативными источниками энергии, такими, к примеру, являются солнечная, ветровая. В этой связи ставится вопрос о спуске водохранилищ. На первых порах, в качестве эксперимента, Рыбинского); чтобы была разработана и реализована программа создания почвозащитных лесов в лесостепных и степных условиях бассейна Волги; чтобы были созданы заповедные зоны для сохранения осетрового стада, а коренное население, проживающее на берегах Волги и ее притоках, пользовалось бы преимущественным правом использования рыбных запасов, включая осетровых рыб; чтобы была разработана и началась реализация программы сохранения и восстановления черноземов, плодородия почв; чтобы добиться создания режима рубок леса на основе принципа постоянного и непрерывного лесопользования и экологических норм.

Как ни тудно, [illegible] тем не менее нашли силы признать: наша земля в беде! Ее надо срочно спасать.

На заседании комитета общественность высказалась за прекращение строительства каналов Волга-Дон 2, Волга-Чограй и других обесточивающих волжское русло, отмену проектов, связанных с дальнейшим повышением уровня поверхности водохранилищ в районе Горьковской и Чебоксарской ГЭС. Выражено отрицательное отношение к строительству третьей и четвертой очередей Калининской АЭС и вообще к строительству атомных электростанций в регионе.

Была высказана озабоченность в связи с недопустимым размахом деятельности ряда зарубежных фирм в бассейне Волги, особенно в Москве, где они «стремятся извлечь сверхприбыль, внедряя экологически вредные технологии».

Предстоит длительная, изнуряющая и, пожалуй, неравная борьба с технократической бюрократией.

Планы у комитета грандиозные, и, судя по всему, общественность настроена чрезвычайно боевито. Она действует под своеобразным лозунгом: «Если неблагополучно на Волге—неблагополучно в России, во всей стране!». Таково значение великой реки.

Общественный комитет обрастает мощным активом сторонников и помощников в многочисленных городах и населенных пунктах по всей Волге-реке и далеко за ее пределами: свидетельство тому и денежные поступления в его фонд из-за рубежа.

**Дмитрий ТУЛАЕВ.**

# ЕСЛИ УМЕЕШЬ УПРАВЛЯТЬ СВОЕЙ ЭНЕРГИЕЙ

## РАССКАЗ О ДЖУНЕ ДАВИТАШВИЛИ

Первый раз я пришел к Джуне Давиташвили полтора года назад. В моей голове царил полнейший хаос, потому что единственным источником информации о Джуне для меня были слухи. Наша пресса хранила упорное молчание, а когда она молчит, слухам раздолье. Я слышал, что есть в Москве какая-то то ли колдунья, то ли знахарка, ассирийка по национальности. Она жила в Тбилиси, когда у нее неожиданно обнаружились уникальные способности, и она начала исцелять людей.

И вот теперь я был у Джуны. Папа Римский — так тот, недавно встретившись с ней (тут я забегаю вперед, уже в октябрь 1988 года), сразу же начал рассматривать ее руки. А я — простите за нескромную параллель — тогда прежде всего обратил внимание на ее глаза. Черные, очень внимательные глаза... Вскоре состоялся наш разговор, разговор, который продолжается по сей день...

Согласитесь, полтора года — срок достаточный для того, чтобы хоть чуть-чуть узнать о человеке. Когда-нибудь я напишу о Джуне книгу, а пока хочу рассказать о ней в прессе. Потому что считаю, знать о Джуне и методах ее лечения надо уже сегодня, я уверен, каждому. А ведь, к моему глубокому сожалению, о Джуне до сих пор больше знают за рубежом, хотя она — советская...

Сегодня уже не секрет: физические поля биологического объекта существуют. Любой человек испускает излучение, вернее, целую серию излучений, харакер которых еще полностью не изучен. Хотя в этом таинственном спектре магнитные волны, ультрафиолетовые и инфракрасные лучи — налицо, это установлено.

Одинакова ли сила наших биополей? Нет. Разные люди — разные биополя. Один из нас — Моцарт, а другой даже «Чижик-пыжик» и то не споет. И то, что биополе Джуны — особой силы, несомненно.

И все же главное — не сила биополя, говорит Джуна. Главное — методика, главное — знать, как и куда направить свою энергию. Человек, научившийся управлять ею,—это, по ее словам, отнюдь не экстрасенс (кстати, этого слова Джуна никогда не употребляет, считая сам термин туманным, надуманным). Просто такой человек совершеннее другого, как умеющий читать — совершеннее неумеющего.

То, чем занимается Джуна и что она совершенствует, — древнеассирийское искусство врачевания. Бесконтактный и контактный массаж, при помощи которого она лечит людей. Хотя главная цель такой методики — не лечение болезней, а их профилактика. Главное — не допустить болезни к организму человека, иначе может быть поздно, говорит Джуна. А еще она говорит, и очень часто, что ее методика отнюдь не идет вразрез с медициной, наоборот, дополняет медицину. И все же немало у нас остается на сегодняшний день медиков, которые пытаются поставить между этой методикой и традиционной медициной ярочный и высокий барьер. И это еще вопрос—медицину ли они хотят оградить или свои научные труды, свои методы лечения. Методы, которые по эффективности зачастую уступают лечению Джуны...

Не так давно Джуна проводила эксперименты в наркологическом центре московской больницы № 17. Ее пациентами были больные 29-го наркологического отделения с диагнозом «хронический алкоголизм второй и третьей стадии». С каждым таким больным было произведено 15 сеансов лечения.

«После 15 сеансов бесконтактного массажа состояние здоровья пациентов значительно улучшилось», — записано в документе об эксперименте.

«Объективно:

1. Восстановились функции печени и почек.

2. Восстановились функции головного мозга, что засвидетельствовано данными энцефалографа.

3. Улучшилась сердечная деятельность, что показали данные ЭКГ.

4. Восстановился кровоток в конечностях.

5. Восстановилась деятельность желудочно-кишечного тракта, что засвидетельствовано данными гастроскопии».

А вот другие факты. Может быть, вы смотрели по телевидению фильм «Прикосновение» — о слепом и глухом Александре Суворове. «Тотальная слепоглухота» — так жестко, а может быть, и жестоко звучали слова его диагноза. Джуна работает с Александром уже несколько лет. Когда я в последний раз видел Суворова, глухим и слепым его уже нельзя было назвать. Сейчас он слышит уличный шум и звуки музыки, воспринимает разговорную речь. Он видит руки Джуны, реагирует на их движения, считает количество пальцев, которые она ему показывает.

Какие болезни лечит Джуна и каковы гарантии полного выздоровления? Этот вопрос приходилось слышать чаще других, что и понятно. Относительно гарантий: здесь многое зависит от того, в какой стадии находится заболевание. Оно ведь может быть так запущено, что и традиционной, и нетрадиционной медицине остается только умыть руки. Джуна — не господь бог и не его посланец на нашей планете. Есть предел и ее возможностям, иначе и быть не может. Во всяком случае, как к врачу, так и к Джуне следует обращаться на ранней стадии заболевания, если, конечно, заболевание удается распознать заблаговременно... А заболевания она лечит такие: ишемическую болезнь сердца, кардионевроз, астму, отит, гепатит, эндартериит, радикулит, простатит, панкреатит, мигрень, трофические язвы... Я ловлю себя на том, что полный список излечиваемых ею заболеваний мне здесь все равно не удастся привести — он получился бы слишком пространным.

Ну что же вам еще рассказать о Джуне? Наверное, вы видели ее картины, читали ее стихи, слышали песни, которые она поет. Когда я спросил у нее, зачем ей это все нужно, ведь поэтов, живописцев и музыкантов у нас хватает, а Джуна только одна, она мне ответила, что это у нее просто крик души. Возьму на себя, однако, смелость открыть вам один секрет. Тут дело не только в потребности к самовыражению. Джуна хочет разогнать мистический туман, которым ее окутали, хочет идти к людям, говорить с ними, делиться с ними своей методикой. Она хочет, чтобы ее называли медсестрой, которой она является по образованию.

**Андрей НИКОЛАЕВ,**
**журналист.**

# РОЗЫСК ВЕДЕТ «АРХИВ-СЕРВИС»

До недавнего времени вся работа, связанная с розыском граждан — возможных претендентов на наследство, открывшееся за границей,— проводилась только Инюрколлегией. В связи с ростом интереса в СССР и за рубежом к исследованиям в области генеалогии у этой организации появился конкурент. В Москве создано хозрасчетное генеалогическое бюро «Архив-сервис».

— Основными сферами деятельности бюро является розыск на территории нашей страны лиц, имеющих право претендовать на наследства, открывшиеся за рубежом, а также розыск наследственных активов за границей по обращениям советских граждан,— говорит председатель «Архив-сервиса» кандидат исторических наук Юрий Хвостов.

Бюро предоставляет советским и иностранным гражданам услуги по расследованию и составлению родословных. При этом Юрий Хвостов подчеркивает, что до сегодняшнего дня такими исследованиями в СССР не занимался никто.

Кроме того, «Архив-сервис» будет предоставлять и такие услуги, как поиск и восстановление для заинтересованных лиц и организаций записей актов гражданского состояния, розыск документов для установления родственных отношений и других документов для подтверждения фактов, имеющих юридическое значение.

В бюро работают высококвалифицированные юристы и историки, длительное время сотрудничавшие с Инюрколлегией. Они имеют большой опыт не только розыскной работы, но и в области генеалогических исследований.

По словам Юрия Хвостова, бюро не только сформировало структуру и определило основные направления деятельности, но и начало работу по нескольким наследственным делам, которые им передали зарубежные фирмы, занимающиеся оказанием подобных услуг. Налаживаются контакты с ведущими генеалогическими и юридическими фирмами многих стран.

Работа, связанная с генеалогическими исследованиями и розыскной деятельностью на обширной территории Советского Союза, требует больших усилий и времени. Поэтому в перспективе, убежден Юрий Хвостов, бюро откроет филиалы и отделения в различных городах страны.

Пока же главный офис «Архив-сервиса» находится в Москве. Его адрес: 109193, Москва, ул. Сайкина, 1/2.

**Михаил КАРПОВ.**





У канцэртных залах беларускай сталіцы загучала інструментальная музыка барока. У Мінску пачалі працаваць усесаюзныя курсы выканаўчага майстэрства «Акадэмія старадаўняй музыкі». Праводзяцца яны па ініцыятыве Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі і арганна-клавесіннай творчай камісіі Усесаюзнага музычнага таварыства. Творчыя майстэрні ўзначальваюць дзеячы мастацтваў рэспублікі і вядомыя музыканты краіны і з-за мяжы. Мэта курсаў — прапаганда камернага інструментальнага выканаўства, папулярызацыя старадаўняй музыкі, а таксама ўдасканаленне майстэрства маладых музыкантаў, прадастаўленне ім магчымасці для творчых зносін з вядучымі савецкімі і замежнымі выканаўцамі. «Акадэмія», якая будзе праводзіцца штогод, з'явіцца сродкам кансалідацыі прыхільнікаў і энтузіястаў старадаўняй музыкі. Ужо на першую сесію сабралася каля ста музыкантаў з дзесяткаў гарадоў краіны. Музыка барока будзе гучаць у канцэртных залах беларускай сталіцы штогод на працягу месяца.

**В. ЯКАНЮК.**

**НА ЗДЫМКАХ:** заняткі з артыстамі ансамбля старадаўняй музыкі Валгаградскай філармоніі «Калегіум музікум» Аляксандрам БАЛЬШАКОВЫМ (злева) і Сяргеем ГЛАЗУНОВЫМ праводзіць кіраўнік Ленінградскага ансамбля «Музыка антыква» канцэртмайстар міжнароднага камернага барочнага аркестра Уладзімір ШУЛІКОЎСКІ (у цэнтры); кіраўнікі творчых майстэрань «Акадэміі старадаўняй музыкі» дацэнт Белдзяржкансерваторыі Эльміра ГАБРЫЭЛЯН, заслужаны артыст РСФСР Алег ЯНЧАНКА і канцэртмайстар міжнароднага камернага барочнага аркестра Уладзімір ШУЛІКОЎСКІ (справа).

Фота У. ВІТЧАНКІ.

## З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# БЫЛА ТАКАЯ ВЁСКА

Кніга, аб якой зараз пойдзе гаворка, на маю думку, павінна ўвайсці ў спіс найбольш цікавых і каштоўных беларускіх рэспубліканскіх выданняў сёлетняга года. Невялікая па памеру, яна, на першы выгляд, вельмі нагадвае знешне адзін са шматлікіх паэтычных зборнікаў, якія штогод з'яўляюцца на прылаўках нашых магазінаў. Вось толькі назва... Назва «Была такая вёска» больш, як быццам, характэрная для кніг мастацкай прозы.

На самай жа справе загадкавае выданне, як становіцца зразумелым пасля першага знаёмства з тэкстам, не мае ніякага дачынення да літаратурна-мастацкіх твораў. Гэта гісторыка-этнаграфічны нарыс. Напісаў яго вядомы ў Савецкай краіне гісторык, этнограф і фалькларыст Мікола Улашчык.

Крыху пра аўтара. Імя яго, спадзяюся, помніцца нашым чытачам па некаторых, звязаных з ім матэрыялах, надрукаваных раней на старонках «Голасу Радзімы». Ураджэнец Беларусі, ён доўгі час жыў і працаваў у Маскве. Туды яго прывёў складаны лёс аднаго са шматлікіх пакутнікаў сталінскага перыяду. Але і адарваны ад Бацькаўшчыны, М. Улашчык, як вучоны, прынёс вялікую карысць свайму народу. Пацвярджае гэта і разглядаемая намі зараз кніга, якая ўбачыла свет на роднай мове, на жаль, толькі ўжо пасля смерці аўтара.

Дык пра што ж яна расказвае? Калі коратка — пра вёску. Так, сваю працу Мікола Улашчык прысвяціў роднай вёсцы Віцкаўшчыне, што знаходзіцца ў Дяржынскім раёне Мінскай вобласці. З аднаго боку, нарыс гістарычны: падзеі, якія адбываюцца ў ім, праходзяць праз пэўны разрэз часу. Калі больш дакладна, то час гэты заключаны ў перыяд 1883—1917 гадоў. Прычым, не выпадкова. Менавіта ў 1883 годзе была заснавана Віцкаўшчына. Верхняя ж мяжа перыяду азначае апошні год панавання ў ёй капіталістычных адносін, пачатак яе шляху ў сацыялістычнай сістэме...

З другога боку, «Была такая вёска» — нарыс этнаграфічны: з-пад пяра таленавітага вучонага перад намі паўстае шырокая панарама сялянскага жыцця на прыкладзе адной з тысяч беларускіх вёсак мяжы XIX—XX стагоддзяў. У ім каля двух дзесяткаў раздзелаў. Вось назвы толькі некаторых з іх: «Планіроўка вёскі і сядзібаў», «Чым аралі, жалі, пралі», «Праца мужчынская і жаночая», «Хлеб і да хлеба», «Гульні і забавы»...

Відаць, хто-ніхто з чытачоў, узяўшы ў рукі гэтую надзвычай цікавую кнігу, задасца ў думках пытаннем: якімі мэтамі кіраваўся аўтар, старанна апрацоўваючы этнаграфічны матэрыял? Мне вось дык здаецца, што, апроч навуковых, была ў яго і такая: данесці да беларускага народа яго гістарычную праўду, якая ў мінулым нярэдка дэфармавалася пад ціскам дагматычнай ідэалогіі. Дарэчы, маё меркаванне пацвярджае і сам М. Улашчык, які піша, хаця і не канцэнтруючы на гэтым увагі, ва ўводзінах да працы: «Здавён усталявалася думка, што дарэвалюцыйная Беларусь была «адной з самых адсталых ускраін Расійскай імперыі», а гэта значыць, што на пачатку XX стагоддзя тут толькі зараджаліся феадальныя адносіны. Такое меркаванне настолькі недарэчнае, што нават не патрабуе абвяржэння».

Трэба ўдакладніць, што справа тут не ў наўмысным прыхарошванні беларускай дарэвалюцыйнай вёскі. Дый навошта каму б там ні было гэта рабіць? Беларусь зрабіла свой гістарычны выбар на карысць сацыялізму, і ад гэтага выбару яна сёння не адмаўляецца. Справа, паўтараю, выключна ў гістарычнай праўдзе. Зразумела, у тыя часы існавала ў нас вельмі шмат пасяленняў, дзе былі толькі «лапці, торба, хлеб з мякінай, цемра курнай хаты...» Але сустракаліся і такія, дзе сяляне аралі не сахой, а плугам, малацілі не цапамі, а малатарнямі, чыталі кнігі і выпісвалі газеты.

Дарэчы, знаёмячыся з жыццём Віцкаўшчыны, якраз і пераконваешся, што тут ужо і не пахне, як кажуць, феадалізмам. Панавалі ў вёсцы самыя сапраўдныя капіталістычныя адносіны. Напрыклад, у раздзеле «Чым аралі, жалі, пралі» М. Улашчык піша, што пакаленне яго аднавяскоўцаў, якое нарадзілася ў самым пачатку XX стагоддзя, пра саху ведала толькі ад старэйшых. Зямлю аралі плугам, у тым ліку і п[illegible]онным, які ў два разы ў параўнанні з сахою павялічвае прадукцыйнасць працы. Для ўборкі збожжа разам з сярпамі выкарыстоўвалі і асабістыя жняяркі. Акрамя іх, мелі віцкаўцы і такія машыны, як малатарня, сячкарня, культыватар, арфа. Што тычыцца арфаў, або, па-іншаму, веяльных машын, дык яны павялічвалі выпрацоўку ў параўнанні са старым спосабам у 3—4 разы.

З нарыса можна даведацца пра ўсе асаблівасці і абставіны тагачаснага гаспадарання вяскоўцаў. У прыватнасці, станаўленне іх адносін з рынкам, выкарыстанне працы парабкаў. Карціна ж жыллёвых умоў на пачатку XX стагоддзя ў той жа Віцкаўшчыне выглядала наступным чынам. Амаль усе хаты з'яўляліся пяцісценкамі розных відаў. Прычым, заможныя гаспадары мелі ў іх аж да шасці пакояў. І толькі дзве хаты ва ўсёй вёсцы выглядалі прымітыўна — адзін пакой і сенцы.

Кніга дазваляе сучаснаму чытачу максімальна праўдзіва наблізіцца да атмасферы тагачаснага быту беларускага сялянства, уявіць яго культурныя запатрабаванні. Дзякуючы слову сумленнага вучонага, ясней бачацца нашы духоўныя карані, што можа аказацца неацэннай паслугай сённяшняму часу ў вяртанні некаторых маральных нормаў беларускага народа, страчаных, прынамсі, ужо ў савецкі час.

**Міхась СТЭЛЬМАК.**

# ХОР З ЛЮБЛІНА

Прыгожы аўтобус з польскім рэгістрацыйным нумарам спыніўся на вуліцы Акадэмічнай у Гродне на гадзіну пазней, чымсьці мелася быць. Доўгая чарга аўтамабіляў на мяжы (што сведчыць і пра пашырэнне кантактаў паміж суседнімі краінамі) перашкодзіла ўдзельнікам хору каталіцкага універсітэта ў Любліне своечасова распачаць свой канцэрт. Але гродзенцы, сярод якіх было нямала членаў польскага таварыства імя А. Міцкевіча, цярпліва чакалі. І іхнія спадзяванні спраўдзіліся.

Падчас гадзіннага канцэрта харысты паказалі прафесійны ўзровень выканання. Гучалі свецкія і рэлігійныя спевы на польскай, рускай, літоўскай мовах, латыні. Вельмі прыхільна сустрэлі прысутныя праваслаўныя песні «Госпадзі, памілуй!», «Багародзіца». Усім надзвычай спадабалася апрацоўка для хору вядомага паланеза М. Агінскага. Апошняй была выканана супольна з усёй залай «Песьнь народова», якая стала нацыянальным гімнам палякаў усяго свету.

Каталіцкі універсітэт у Любліне з'яўляецца адной з трох самых прэстыжных вышэйшых навучальных установаў Польшчы. Хор яго таксама вельмі знакаміты, і не толькі ў сябе ў краіне, але і ва ўсёй Еўропе. Гастраляваў таксама ў ЗША і Канадзе, мае шмат узнагарод за ўдзел у міжнародных музычных фестывалях. Утварыўся хор у 1921—1922 гадах, і ўжо 18 гадоў ім кіруе прафесар універсітэта Казімеж Гурскі.

Люблінскі хор даў у Гродне толькі адзін канцэрт.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ.**

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

**Анатоль СЫС**

### ГАЛОДНЫ ГОД

Бацька мой у год галодны
каласкі збіраў па полі,
так цяпер збіраю словы
мовы любай, мовы роднай.

Беспадстаўныя папрокі:
быццам мы не галадалі,
быццам нам жывецца лёгка —
поле нават не аралі...

Так скажу:
ару я мову.
І бывае, ў непагоду
стынуць вусны, мёрзнуць словы,
я з хатолкай — год галодны.

І ад хутара да вёскі
мову родную жабрую,
за вяснянкі праўлю косы,
за былічкі ладжу збрую.

І ад хутара да вёскі,
І ад Пінска аж пад Шклоў
кос палескіх пагалоскі
з непаўторным звонкім «о».

Ажываю, калі вырай
пад нябёсамі курлыча,
гэта ён радзіму кліча:
Кры-чаў, Кры-чаў, Кры-чаў,
Кры-чаў...

Ажываю, калі сосны
каля Рэчыцы спяваюць,
быццам маёй маці кросны
чаўнаком прашылі памяць.

Ажываю...
Ажывае
на Палессі тура ўздых,
там цячэ вада жывая —
мова прашчураў маіх.

Піць яе — не наталіцца,
пад пуцінай млечнай:
лета — золак — шчамяліца...
маці — мова — вечнасць...

**Алег САЛТУК**

### БЕЛАРУСЫ

Штурхалі нас і распіналі
На дыбах, плахах і крыжах.
Мы з нежывых уваскрасалі
З вялікай помстай у вачах.

На рубяжах святла і ценяў,
На пакалечанай зямлі
Ўставалі доўга мы з каленяў,
Не паміралі мы — жылі.

Спявалі, плакалі уголас.
Сярод пустэч, сярод балот,
Нібы прыбіты градам колас,
Да сонца браўся наш народ.

Адкуль у нас такая сіла,
Магутная, бы крыгалом!
Нас смерць палола і касіла,
Цапамі войнаў малаціла,
А мы расцём, а мы жывём!

І будзем жыць, пакуль нябёсы
Праменяць зблізу і здалёк..
Глядзіце —
У світальных росах
Смяецца сіні васілёк.

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

* * *

І з усяго, вялікага-малога,
Мяне чакае шлях адзін — да
Бога...

Я не нашу крыжа і не малюся,
І раз на год наведваю царкву.
Ды лёс Хрыста, пакутнага Ісуса,
Таксама як і доля беларуса —
Адзін і той вянок на галаву!

З двара свайго, з казённага
парога
Да Бога шлях, як да сябе
самога.

**Максім ТАНК**

* * *

Казала, на далонях ты
Чытаеш лёс любога.
А як жа трапіла сама
Ты ў мой палон, нябога!

Ці то ноч цёмная была
І ў веснім перазвоне —
Лёс адчытаць ты не змагла
У сціснутых далонях.

Лёс незайздросны, за які
На аўкцыёне нейкім
Не далі б нават дзівакі
Зламанае капейкі.



# ДЗІВОСНЫЯ ФАРБЫ ВОСЕНІ

Угледзьцеся ў гэтыя здымкі, чытачы. Ці не агорнуць і вас успаміны аб родных мясцінах, далёкіх гадах дзяцінства!

...Бацькоўская хата. Мы сядзім на шырокай лаве, углядваемся ў падслепаватае невялічкае акенца. За ім — буяе восень. Кап-кап... Манатонна стукаюць кроплі дажджу, спадаючы са стрэх. Маленькімі ручайкамі збягаюць струменьчыкі вады па шыбе. Бачым, як неўтаймаваны свавольнік вецер зрывае лісце з дрэў, гойдае на голых галінках познія яблыкі ў садзе.

Праз акенца добра бачны стажкі сена. Згорбіліся, нібы тыя дзяды. Так і прастаяць да зімы, пакуль руплівы гаспадар не перанясе ў хлеў ці гумно. Дзень, другі. А там і скончылася непагадзь. Аднойчы раніцаю прачнешся і заўважыш, што на вуліцы ў блакітным небе ярка зззяе сонейка. І чым вышэй падымаецца яно, тым становіцца цяплей. Ну зусім, як летам: наступіла бабіна лета.

Тут ужо не ўтрываеш. Шукаеш кошык, што зусім нядаўна сплёў бацька, і... гайда ў лес! Грыбы ж выраслі.

Дарога ідзе ўзбоч поля. Вось ля чорнай раллі паважна ходзяць гракі, быццам хочуць пераканацца, ці ўсё тут убрана, ці добра зараў гаспадар іржышча. А побач з раллёй лапіна руні. Поле жыве, зелянее азімай збажынай. Да лесу — рукой падаць. Але што гэта! Спыняешся, нібы ўкапаны. Няўжо здалося!! Не. Жураўліны покліч з самага паднябесся. Міжволі ловіш сябе на думцы, што нічога не можа быць больш сумнага і трывожнага, чым жураўліная песня. Ды і ці ж песня гэта, калі душа шчыміць да слёз. Нібы нагадвае, што вось так, як гэтыя птушкі, і мы сарваліся з родных мясцін, з бацькоўскіх хат і паехалі па ўсім белым свеце: хто за мяжу ў далёкую чужую краіну, хто ў вялікі горад. Але калі журавы яшчэ вернуцца ў родныя мясціны, то мы, напэўна, ужо ніколі. Хіба рэдкім госцем завітаем на радзіму.



Вось і лес. Паміж амаль бязлістых беластволых бярозак палымнеюць важкія гронкі чырвоных рабін. Дзелавіта скачуць з галінкі на галінку вёрткія сінічкі, нібы аглядаючы сакавітыя ягады. Не, гэты ласунак не для іх. Калі ўдараць маразы, да рабін прыляцяць з далёкай поўначы снегіры. Тут яны і будуць карміцца. А сінічкі паляцяць у вёскі, бліжэй да чалавека. Ён не дасць ім прапасці ў цяжкую часіну.

...Падасінавікі, рыжыкі, масля́кі, ці, як іх называюць у народзе, казлякі, напоўнілі кош. Пара вяртацца. Доўга-доўга будзем успамінаць мы гэтыя непаўторныя і дарагія нам дзівосныя фарбы восені на роднай старонцы. Такія сумныя, але ўсё-такі непаўторныя і цудоўныя.



НА ЗДЫМКАХ: восень у вёсцы; сонечныя «факелы» чартапалоху; шчодрая на лясныя дары восень.

Фота С. ЖАЛУДОВІЧА і Я. КАЗЮЛІ.

## СОНЦА Ў АЗЕРЦЫ

*Словы Н. ГІЛЕВІЧА* *Музыка Л. ЗАХЛЕЎНАГА*



Бераг маёй вясны —
І сёння ты са мною.
Ціхі куток лясны
З азерцам пад гарою.
Дворык вішнёвы той
У сонечным гудзе пчаліным.
Кладачка над вадой,
Дзе моўчкі далоні сплялі мы.

Прыпеў:
Дзе мне ні быць —
Век не забыць
Сонца ў азерцы,
Век мілаваць
І цалаваць
Той дзень у сэрцы.

Песня маёй вясны —
Гучыш і не змаўкаеш.
З таго азерца ў сны
Ты сонцам прыплываеш.
«Помні і не забудзь!» —
Шапталі мне горача вусны.
Помні і не забудзь,
Што ёсць гэты кут беларускі!..»

Прыпеў.





## НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 1151